© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

http://navinki.port5.com

# НАВІНКІ

27 сакавіка - 3 красавіка 2002 №6(55) Кошт свабодны

Пагроза беспрацоўя, увод платы за мэдыцыну і адукацыю, павелічэньне тарыфаў на грамадзкі транспарт... Не турбуйся. Фэдэрацыя прафсаюзаў беларуская — твая надзейная крыша.

## АПОШНЯЕ ВЫЧВАРЭНЬНЕ ЭДЗІКА ТАРЛЕЦКАГА

*Павал Севярынец адказвае галоўнаму homo sexualist-у краіны.*

**Вось ужо каторы раз у інтэрвію беларускай прэсе (*Беларуская газэта*, *Беларуская маладзёжная*, *День* і г.д.) кіраўнік мясцовых геяў і лесбіянак Эдвард Тарлецкі згадвае маё імя і сьцьвярджае, што хацеў бы, прабачце, заняцца са мною сэксам. Рэплікі збольшага непрыстойныя, але сыстэматычныя, таму адказаць трэба – каб усе зразумелі, адкуль растуць ногі ў гэткага вычварэньня.**

**Я магу ўявіць заклапочанасьць Эдварда – ён усё-такі найбуйнейшы homo sexualist у Беларусі. Таксама вядома, што ягоная ліга сэксменшасьцяў «Лямбда» займаецца ня толькі фізыялягічнымі вычварэньнямі, але і адкрытай дыскрэдытацыяй дэмакратычнай грамадзкасьці ў краіне. Зьяўленьне гей-сьцягоў, гей-парадаў і іншых гей-правакацыяў на мерапрыемствах зь бел-чырвона-белай сымболікай, на дэманстрацыях супраць рэжыму й ўрачыстых сходах зьневажае ўвесь нацыянальны рух, дае выключныя аргумэнты БТ і зводзіць сутнасьць паняцьця «правы чалавека» да правоў на рэкляму разбэшчанасьці й зла.**

**Згаданыя пасажы Э. Тарлецкага і ёсьць такой тыповай правакацыяй. Такім чынам кіраўнік «Лямбды» помсьціць за адзін выпадак у ліпені 2001 году. Тады арганізацыйны камітэт Кангрэсу Беларускай Моладзі большасьцю галасоў афіцыйна адмовіўся запрасіць лігу сэксменшасьцяў «Лямбда» на ўрачысты сход у якасьці арганізацыі-ўдзельніка. З тых пор, я як кіраўнік аргкамітэту і стаў найпершай мішэньню для «дасьціпных», выказваньняў Тарлецкага.**

**У тым жа інтэрвію *Дню* Тарлецкі сьцьвярджае, што ён – «веруючы». Пабойся Бога, Эдзік! Мужалоства, паводле Бібліі, – сьмяротны грэх, а ягоная прапаганда тым больш. Таму паталягічная нянавісьць Эдзіка да хрысьціянства цалкам вытлумачальная. Эдварда Тарлецкага мне давядзецца расчараваць. Як хрысьціянін і проста нармалёвы чалавек, я стаўлюся да гомасэксуалістаў як да няшчасных, скалечаных і хворых людзей. Сам факт іх існаваньня ёсьць вынікам сапсаванасьці й грэшнасьці сьвету. Пры выглядзе мужчынаў, якія ня здольныя кахаць жанчынаў, у мяне ўзьнікае толькі прыкрае пачуцьцё жалю – як пры выглядзе аднаногіх, сьляпых або шызафрэнікаў.**

**Сам я, дзякуй Богу, гетэрасэксуал. Мне падабаюцца жанчыны, і я лічу, што гэта натуралёва. Эдварду Тарлецкаму я ўсё-такі раю спачатку схадзіць да сэксапатоляга, а потым – у царкву ці касьцёл. Калі пакаяцца і ўвераваць у Хрыста – Бог збавіць. І ад вычварэньня, і ад д'ябла, і ад навязьлівых ідэяў.**

**Павал Севярынец**

Чытайце ст.8 і вы даведаецеся, як гэта было.




Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс **63439**. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@ring.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 27.03.2002г., а 23.59. Тыраж 3750 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ №299

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



## Сацыяльны рэпартАж

### Куды засунуць чэкі

У аўтобусе час пік. Малое дзіця румзае на руках у маці: «Будзеш плакаць, бацька на Лаўсане рабіць будзе, а сьціхнеш – грошы ў фірме заробіць». Дзіця нечакана змаўкае.

«Знаець», – сьмяеца маці. – «Баба ягоная на Лаўсане працуе». Гэта ў Магілёве «Хімвалакно» акцыянаваць сабраліся. Але нікому не ў галаве гэта. Толькі аб'яву на прахадной павесілі. Начальства маўчыць як мыла зьеўшы. На Лаўсане чвэрць магілёўцаў працуе, калі ня болей. Усе мае суседзі і сябры адтуль. І я прарабіў электрыкам у шкодных умовах трыццаць год з гакам. Некаторыя мае аднагодкі, з кім разам працаваць пачыналі, даўно зямлю параць. А я вось зь пяцідзесяці гадоў на пэнсію пайшоў ды сяджу дома. Ну яго к чортавай мацеры. Надакучыла адныя й тыя ж морды, адную й тую ж прахадную больш за паўвека штодня бачыць. Калісьці наш Лаўсан быў камсамольскай ударнай будоўляй. Будавалі зэкі ды такія як я калгасьнікі ў штанах латаных, якім у горадзе не было дзе прымкнуцца. Нічога, абжыліся. Кватэры паатрымлівалі ў Задняпроўі. Хто на Пушкінскай, хто на Раціна, хто ў «даліне сьмерці».

У прафкаме дык і зусім добра й выгодна было сядзець. Дэфіцыты дзялілі, пуцёўкі, касьцюмы спартовыя. Ага, як мы за касьцюмамі потым душыліся, мода на іх была. А зараз прафкам у ж*опе, камбінат у крызысе. Каля 60% акцыяў Расеі прададуць, дык нашым дзецям ужо тут не працаваць. Панаедзе з усяго сьвету. Будуць сваіх паўсюль уладкоўваць. Хрэн ты іх выкурыш.

Учора да мяне суседка параіцца прыбегла. Чэкі «Маёмасьць» укладваць, або пачакаць. Можа нейкі сход будзе. Раскажуць усё. Ды на халеру той сход, бяз нас ужо ўсё вырашылі. Ляпае, што кіем па загарадку, даўбешка старая. Ну я ня вытрымаў і адказаў ёй: «Засунь ты, баба, свае чэкі ў с*раку разам з двума лаўсанаўскімі касьцюмамі. Тамака цяпер іхнае месца». Надзьмулася. А за што? Я ж «Хімвалакно» не прадаю і не купляю. На начальства крыўдуй. Яно спэцыяльна той крызыс зрабіла, каб камбінатаўскімі грашыма пажывіцца. О так!

**Сьцяпан Дальнасьмерцін,**
Менск-Магілёў

# Урок устрыманьня




Трэба неадкладна ўвесьці ў школьную праграму новую дысцыпліну – полавае ўстрыманьне. Гэта ня нейкі жарт, а рэальная рацыяналізатарская прапанова спадара Макарава, кіраўніка камітэту па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў. Менавіта з такім дакладам ён выступіў на Круглым стале «СМІ як маральна-адукацыйны фактар». Мерапрыемства было арганізаванае Беларускім саюзам журналістаў, да якога далучыліся Мінадукацыі, Мінабароны, Беларуская Праваслаўная царква і інш. Аднак ніхто з прысутных, відаць, і не падазраваў, якой ступені разбэшчанасьці дасягнулі ў апошнія гады беларускія школьнікі. З дакладу Макарава вынікала, што лабатрасы амаль што не мастурбуюць на ўроках і кроплі не хапае, каб заняцца групэнсэксам на алгебры ці белмове. Уся праблема хаваецца, відаць, у справах разбалансаванасьці паміж рэлігіямі й нацыянальнасьцямі, таму натуральнае выйсьце з сытуацыі – досьвед шматнацыянальнай і поліканфэсійнай Амэрыкі, дзе ўжо даўно дзяцей тэрарызуюць падобнымі прадметамі. Падвох хаваецца ў тым, што вучні спачатку праходзяць курс полавага выхаваньня, а як толькі яны ўваходзяць у смак дарослага жыцьця – бах, сэмінар па ўстрыманьні з выніковай адзнакай за чвэрць. Як будзе выглядаць гэтая «спэцыяльная праграма ўстрыманьня» ў беларускіх школах, пакуль уявіць цяжка, аднак думаецца, што вучняў спачатку трэба навучыць займацца сэксам, каб потым яны ведалі, ад чаго ім трэба ўстрымлівацца ●

**Ян Каменскі**

# Скандал у БПСМ

Агульны крызыс неплацяжоў, што патроху пачынае турбаваць краіну, ужо пасьпеў лупануць і па авангардным атрадзе лукашэнкаўскага беларускага эканамічнага ладу. Першымі ахвярамі крызысу сталі віцебскія бэпээсэмаўцы. У Віцебскім райкаме БПСМ ужо каторы месяц ня плоцяць заробак, абгрунтоўваючы гэта «часовымі складанасьцямі ў недастатковай ліквіднасьці абаротных сродкаў галаўной арганізацыі». І гэта было б паўбяды. Любы разумны чалавек проста накатаў бы заяву «па ўласным жаданьні» й падаўся кудынебудзь у Асамблею няўрадавых арганізацыяў ці фонд «Супольнасьць» – заробкі там, дзякуй Сорасу, плоцяць рэгулярна. Аднак ня тут-та было. Заявы на звальненьне з пасады проста не прымаюць! Бедныя маладыя намэнклятуршчыкі ператварыліся ў звычайных прыгонных калгасьнікаў, ня маючы права свабоднага выбару працы й легальных сродкаў да існаваньня. Адзінае ратаваньне ад галоднай сьмерці – папаўняць клясу работнікаў «цёмнага рынку» і нелегалам стаяць на валюце або вазіць сьмятану на Расею. Такое становішча ў адной з буйнейшых рэгіянальных арганізацыяў БПСМ можа прывесьці да масавага адтоку адказных работнікаў зь іншых аддзяленьняў, якім ужо сёньня раім у тэрміновым парадку начыркаць заявы аб звальненьні і пачаць падбіраць новыя месцы працы. Вось табе, бэпээсэмавец, і Юр'еў дзень ●

**Павал Янчэўскінец**




# Новыя парцянкі для Іванкі

Вайсковая рэформа, пра якую мы ня раз узгадвалі на старонках нашай газэты, відаць, адаб'ецца ня толькі на структуры й арганізацыі Ўзброеных Сілаў РБ, але й на зьнешнім выглядзе беларускіх вайскоўцаў. Як паведамляе газэта *Во славу Родины*, у беларускай арміі неўзабаве будзе новы камуфляж, распрацаваны спэцыялістамі Чырвонасьцяжнай рэчавай службы тылу. Як патлумачылі аўтары ідэі неабходнасьць гэтага мерапрыемства, новы прыкід патрэбны нібыта для таго, каб «беспамылкова вызначыць байца ўзброеных сілаў РБ». Аднак засталося невядомым, хто ўжо пасьпеў пераблытаць нашых салдат у камуфляжы «Бура ў балоце» з чужаземнымі «камандас», каб вырашыцца на пераапрананьне цэлай арміі, на што ўгрохаюць гару бюджэтных сродкаў, гэтак неабходных для правядзеньня вясновых палявых работ ●

**Ёзаф Швэйк**



Знайдзі 10 адрозьненьняў паміж гэтымі вайскоўцамі.

## ІніцыятЫва

### Ізноў цімураўцы

Губэрнатар Меншчыны Дамашкевіч, відаць, у дзяцінстве вельмі любіў пачытаць Гайдара. Інакш, як можна растлумачыць ягоную новую ініцыятыву – аднавіць у Беларусі рух цімураўцаў. З гэтай нагоды плянуецца выдзеліць сродкі на набыцьцё адпаведнай формы й стварэньне славутай у мінулым структуры. У некаторых школах ужо вызначаныя 5-7 клясы, якім пашанцавала стаць першымі цімураўцамі. Гадамі назапашаны дзіцячы рэсурс можна накіраваць на важную справу: юныя дамашкоўцы маглі б замазваць палітычныя графіці на сьценах адміністратыўных будынкаў, мачыць «квакінцаў»-зуброў альбо ахоўваць ад хуліганаў маёмасьць дзяржаўных дзеячоў. Напрыклад, дачу таго ж Дамашкевіча. Няхай адпачывае губэрнатар спакойна ды чытае свайго любімага Гайдара. Галоўнае, каб «Валадар Пярсьцёнкаў» пад руку ня трапіў. Рух оркаў ды хобітаў дзеці наўрад ці вытрываюць.

Рэкляма ў газэце
НАВІНКІ
1см² – 1800 бел. руб.
(разам з ПДВ)
Зьвязвацца праз пэйджэр: 2070000
аб.16816

# Абібок! Радзіма кліча!

Віцебскі аблсавет грамадзкага выхаваньня правёў нядаўна пашыраную нараду наконт «забесьпячэньня бесьперапыннага цыклу патрыятычнага выхаваньня». Таргэт-груп мясцовых чыноўнікаў – мясцовая моладзь. Аднак вось закавыка: калі ў савецкія часы любога маладзёна можна было без праблем узяць за жабры ў школе, ПТВ або на заводзе ды пацягнуць яго на палітінфармацыю ў ленінскі пакой, то сёньня сытуацыя кардынальным чынам зьмянілася. Значная колькасьць маладых людзей Віцебскай вобласьці афіцыйна нідзе ня вучыцца й не працуе. Сярод агульнай колькасьці беспрацоўных Віцебшчыны 40% – менавіта моладзь. Як і дзе злавіць юнака, каб прамыць яму мозгі пра любоў да Радзімы – чыноўнікам пакуль незразумела. Можна, канешне, рабіць аблавы па падваротнях і праводзіць у апорках тлумачальныя размовы, але наколькі гэта будзе сучасна і эфэктыўна. Лепшым падаецца варыянт г.зв. дыстанцыйнай нагляднай агітацыі: маляваць на платах патрыятычныя графіці ●






© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Так жыць

Камуна-дэмакрат Шчукін пантуецца, што хутка ён і ягоныя кунакі па апазыцыйнай пясочніцы пачнуць калашмаціць вітражы фэшэнэбэльных буцікаў. Антыбуржуйскія пагромы, арганізаваныя апазыцыяй, павінны адбыцца ня сёньня-заўтра і будуць, як абяцае Шчукін, круцей за выхадкі антыглябалістаў. Яшчэ раней магілёўскія лібэралы выступілі супраць росту коштаў на мэдыцынскія паслугі, а кішэнны эканаміст БНФ Заіка заахвоціў працоўныя калектывы вырашаць лёс прыватызацыі іх прадпрыемстваў. Эканаміст мае маніякальную тэорыю, што ўласьцівы беларускім рабочым нацыянальны дух, які зараз дрыхне, раптам прачнецца, і апантаныя патрыятызмам працоўныя ўздымуць голас супраць продажу прадпрыемства расейскім інвэстарам.

Што за муха ўкусіла байцоў дэмакратычнага джыхаду падацца ў абаронцы сацыяльных правоў, якія доўгія гады зьяўляліся для іх атавізмам савецкага таталітарызму, шлягбаўмам на аўтабане ў райскія кушчы рынкавай эканомікі?

Магчыма, пачырваненьне апазыцыі зьвязанае з тым, што за апошнія гады яны пераспрабавалі ўсе магчымыя мадэлі арганізацыі: у каго толькі не ўвасабляліся нашыя дэмакраты: аксамітныя рэвалюцыянэры а-ля чэскай Хартыі'77, сэрбскія мілітанты з «Отпору», унсоўскія баевікі, хрысьціянская сэкта... Ніводная з вышэй узгаданых мадэляў не спрацавала. Цяпер прыйшоў час прыкінуць, як апазыцыянэру ідзе папоўская барада Карла Маркса і бэйсболка Леніна, інакш кажучы, касіць пад абаронцу сацыяльных правоў. А раптам гэта спрацуе?..

Інтуіцыя чамусьці падсказвае, што мода на сацыялізм сярод нашых апазыцыянэраў хутчэй зьвязаная з апошнімі рэформамі Лукашэнкі. Рост коштаў на мэдыцыну, адукацыю, камунальныя паслугі даканаў усіх. Між тым Лукашэнка сам дае падставы для прыходу сьляпой клясавай нянавісьці. Пакуль сярэдні беларус трасецца над кожным зайцам, бацька адпачывае ў рэспэктабэльным альпійскім гатэлі. Як той містэр Твістэр выпісвае сабе ў горы нацыянальную зборную па хакеі. Па падліках Народнай Волі дзеля таго, каб Лукашэнка ў Аўстрыі забіў варатару 8 шайбаў, падаткаплацельшчыку прыйшлося выкласьці




▲ Цяжкае эканамічнае становішча выклікала ўлетку 1980 масавыя страйкі на польскіх прадпрыемствах. На гданьскім суднавэрфе быў створаны альтэрнатыўны прафсаюз «Салідарнасьць». Каб паменшыць рост ягонай папулярнасьці дзяржаўныя СМІ распачалі цкаваньне суднабудаўнікоў. Страйкоўцы мелі падтрымку ад каталіцкай царквы. Яе капэланы прыходзілі да працоўных у якасьці «хуткай духоўнай дапамогі». І тут лідэр «Салідарнасьці» Лех Валенса вырашыў запрасіць на дапамогу функцыянэраў Фэдэрацыі Прафсаюзаў Беларускай (ФПБ), і беларускія прафсаюзьнікі знайшлі выйсьце з крытычнай сытуацыі.




◀ 1984 год. Англія. Кансэрватыўны ўрад Маргарэт Тэтчэр патрабаваў ад Нацыянальнай вугальнай кампаніі дабіцца рэнтабэльнасьці яе гаспадарчай дзейнасьці. На справе гэта азначала звальненьне 20 000 чалавек. Прафсаюз Шахцёраў (NUM) заклікаў 186 000 сваіх сябраў да страйку і акупацыі прадпрыемстваў. Паколькі знайсьці працу ў Англіі было вельмі цяжка, шахцёры вырашылі стаяць да канца. У адказ урад адправіў у шахцёрскія раёны атрады канстэбляў. Пачаліся сутычкі. Што рабіць, ламаў галаву лідэр NUM Артур Скаргіл. Раптам яго асяніла. «Натуральна, запрасіць чыноўнікаў Фэдэрацыі Прафсаюзаў Беларускай (ФПБ). Яны ведаюць як весьці перамовы з уладамі». Беларусы не прымусілі сябе доўга чакаць. Іх зьяўленьне на лініі барацьбы вырашыла лёс страйку.



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

## ПРАФСАЮЗЫ

# МОЖНА!

Май 1968 году выдаўся вельмі сьпякотным у Францыі. Рабочыя падтрымалі пратэсты студэнтаў супраць аўтарытарнага рэжыму Дэ Голя і абвесьцілі ўсеагульны страйк. Амаль 10 мільёнаў чалавек выйшлі на вуліцы. Натуральна, паміж моладзьдзю і спэцназам CRS разгарэліся сутычкі. Кіраўнік студэнцкага прафсаюзу Саважо набраў код Менску: «Алё, алё, гэта штаб-кватэра Фэдэрацыі Прафсаюзаў Беларускай? Гэта з Францыі непакояць. У нас праблемы з паліцыяй. Імем прафсаюзнай салідарнасьці, дапамажыце!» «Не турбуйцеся, – адказаў на тым канцы дроту бюракрат ФПБ. Дасылаем вам лепшых стрыт-файтэраў ФПБ. Яны ўдзелаюць CRS як катоў». Так і атрымалася. ▶




18 000 эўра. Што гэта, як не нахабнае буржуінства, пры выглядзе якога кіпіць розум і кожны ў сьмертны бой весьці гатоў.

Па-другое, у нашай апазыцыі ёсьць на каго арыентавацца. У 70-80-ыя гады тыя ж праблемы вырашалі польскія дысыдэнты. Пасьля рабочых беспарадкаў 1977 году на Урсусе, выкліканых ростам коштаў, дысыдэнцкія групы Польшчы зразумелі, што рабіць стаўку трэба не на расьпевы нацыянальных гімнаў, а на маладухоўную каўбасную тэму. Былі створаныя групы, якія заняліся прававой дапамогай працоўным, наладзіўшы ім інфармацыйную сетку. Увесну 1980 шакіраваныя новымі коштамі на мяса ў мэню рабочых сталовак узняліся на дыбкі працоўныя гданьскага судавэрфу імя Леніна. Прадстаўнікі ўлады мелі досьвед як паводзіць сябе ў такіх сытуацыях: наабяцаць з тры корабы, каб дэманстранты супакоіліся. Аднак на гэты час і ўмяшаліся актывісты, сярод якіх быў і электрык Валенса, пра якога пасьля Вайда здыме фільм «Чалавек з жалеза». Валенса і кампанія падбілі працоўных не купляцца на пасулы адміністрацыі, а ўзьняць палітычныя лёзунгі. У выніку быў створаны антыкамуністычны прафсаюз «Салідарнасьць». Камбінуючы сацыяльныя і палітычныя лёзунгі, прафсаюз атрымаў беспрэцэдэнтную падтрымку ў краіне. У сьнежні 1981 ён налічваў 10 мільёнаў.

У 1989 годзе пасьля шэрагу гадоў дыктатуры ўлады пачалі з апазыцыяй перамоўны працэс, які закончыўся падпісаньнем дамовы аб дэмакратызацыі ў краіне. З таго часу рух «Салідарнасьці» двойчы прыходзіў да ўлады. І што далей? Вынікам ягонай дзейнасьці стала амаль поўная ломка ўсёй сыстэмы сацыяльных гарантыяў, нягледзячы на тое, што іх абарона была галоўным лёзунгам «Салідарнасьці» на пачатку дзейнасьці руху. Кульмінацыяй антысацыяльнай палітыкі стала закрыцьцё вэрфу імя Леніна – калыскі «Салідарнасьці», і звальненьне яе працоўных. Па выніках выбараў мінулага году «Салідарнасьць» нават ня трапіла ў парлямэнт.

Досьвед «Салідарнасьці» асьвятляе нашай апазыцыі гаць у тумане пасьлявыбарнай разгубленасьці: за кошт сацыяльных лёзунгаў прыйсьці да ўлады і пасьля ... пасьля праводзіць той жа курс, які пачынае праводзіць сёньняшні рэжым – лібэралізацыю і прыватызацыю.

Але гэта пасьля, а сёньня засталося толькі знайсьці чалавека, свайго электрыка Валенсу. На роль беларускага жалезнага чалавека прэтэндуюць лідэры «Хартыі», камуністы-калякінцы, эсдэкі і, натуральна, прафсаюзы. Яны першыя ўсталі на сьцежку клясавай вайны. 28 сакавіка быў арганізаваны ўсеагульны дзень прафсаюзнага дзеяньня. Як вядома, айчынныя трэд-юніёны заўсёды славіліся сваім бескампрамісным байцоўскім духам і зноў упісалі слаўную старонку ў сусьветныя аналы клясавай барацьбы. У пятніцу 28 сакавіка прафсаюзы мусілі паказаць дзяржаве такую кузькіну маць, што тая дасюль павінна корчыцца ў прыступах параноі.

Прыгадаем, што людзі Ганчарыка даўно ўжо даставалі прэзыдэнцкую адміністрацыю страшылкамі правесьці агромныя акцыі пратэсту. Гэта не перашкодзіла ўраду напрымаць акіян антырабочых пастановаў, у тым ліку славуты закон аб узмацненьні дысцыпліны і новы Кодэкс законаў аб працы (КЗаП).

Нарэшце, доўгачаканы час X, дзень барацьбы прыйшоў. Прафсаюзы падалі заяўку на масавае шэсьце і мітынг. Натуральна, ім адмовілі. У адказ беларускія Валенсы вырашылі абмежавацца сходам. Пэрспэктыва правядзеньня ў адным з пакояў Дому прафсаюзаў апазыцыйнай сходкі так напалохала ўлады, што яны адразу пайшлі на саступкі. У апошні час Менгарвыканкам перадумаў. Даў дазвол на пікет на Бангалоры і сустрэчу з прафсаюзным актывам на прыступках Дому прафсаюзаў. Сход пратэсту ў будынку ФПБ прайшоў на славу. З такой высокай арганізацыяй справы, з такой рэвалюцыйнай мужнасьцю ініцыятыва прафсаюзаў прырэчаная да перамогі. Яна прымусіла ўрад адмовіцца ад плянаў лібэралізацыі. Няхай жыве ФПБ, гіп-гіп ура яе лідэры!

Шкада, што нашыя прафсаюзьнікі не арганізоўвалі акцыі рабочага супраціву ў іншых краінах. Магчыма тады рабочая кляса здабывала адну перамогу за другой і кола сусьветнай гісторы закруціла б па-іншаму ●

**Уладзімір Ганчарык**

Р Э К Л Я М А

Заўсёды ёсьць нешта цікавае

ТПУП «Гламератус»



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Там, дзе не збываюцца мары

*Калі хочаш адхапіць «Оскар», то мусіш арыентавацца на палітычную карэктнасць*

Чорным днём у жыцьці мільёнаў чалавек ува ўсім сьвеце стала 24 сакавіка 2002, бо менавіта ў гэты дзень высьветлілася, што яны дарэмна патрацілі свае грошы. **«Валадар пярсьцёнкаў»** ня стаў падзеяй году і праваліўся амаль па ўсіх намінацыях, атрымаўшы «Оскар» за такую галімацьцю, як грым, музыка, спэцэфэкты і апэратарская праца. І абставіў яго ніхто іншы, як Рон Ховард са сваімі **«Гульнямі розуму»** ды парачка актораў-афраамэрыканцаў, ад якіх не чакалася ніякага падвоху. І ўвесь сьвет задаецца зараз толькі адным пытаньнем: дзе зарыты той самы сабака, які засьмярдзеў так моцна, што крытыкі Амэрыканскай кінаакадэміі аддалі ўзнагароду ня Фрода й кампаніі, а фільму, чый паказ беларускія кінатэатры нават яшчэ не заплянавалі.

Як заўжды гэта бывае, прычыны падобных падзеяў трэба шукаць не на паверхні, а ў нетрах гісторыі. Аналіз абоскараных фільмаў апошняга дзесяцігодзьдзя прывёў да нечаканага выніку: каб атрымаць бласлаўлёны «Оскар» ня трэба выпяндрацца з антуражам, касьцюмамі і драматычнай часткай, дастаткова належаць да таго слою насельніцтва, у стасунках зь якім на думку прыходзіць слова «паліткарэктнасьць». Ня будзем галаслоўнымі.

1990 – Прыз за лепшую жаночую ролю атрымала дзьвінутая баба, што скрала знакамітага амэрыканскага пісьменьніка, каб ад душы зь ім пазабавіцца і ўсьцешыць свае неўтаймаваныя полавыя жаданьні – яўная нетрадыцыйная сэксуальная арыентацыя ў спалучэньні з псыхозам у стадыі рэмісіі. (**«Мізэры»**)

1991 – Поўная шызафрэнія: маньякі-краўцы, манькі-канібалы, маньякі-трансвэстыты... Ну ня будзем пра цёмную частку чалавецтва, проста ўзгадаем, што яны ёсьць і іх меншасьць, а значыць «Оскара» яны заслужылі. (**«Маўчаньне ягнятаў»**)

1992 – Амэрыка ўспомніла і надала ўвагу сьляпым, чые вочы ня бачаць, а рукі робяць дзеля амэрыканскага ладу жыцьця і ўвасабленьня залатой амэрыканскай мары. (**«Пах жанчыны»**)

1993 – Набор сапраўднага паліткарэктара: яўрэі, геі, хворыя на СНІД і нямыя на закуску. (**«Сьпіс Шындлера», «Філадэльфія», «Піяніна»**)

1994 – На гэты раз народ устаў, каб аддаць даніну павагі алігафрэну, чые фінансавыя ўклады ўскосна дапамаглі станаўленьню й разьвіцьцю найбуйнейшага ворага Microsoft – карпарацыі Apple. (**«Форэст Гамп»**)

1995 – Пра барацьбу шатляндзкіх горцаў прамаўчым, яны свой «Оскар» зарабілі крывёй продкаў і часткамі целу Ўільяма Ўоласа. (**«Храбрае сэрца»**)

1996 – Ізноў шызафрэнік, на гэты раз вялацякучы. (**«Бляск»**)

1997 – **«Тытанік»** патануў, а маніякальна-дэпрэсіўны псыхоз застаўся, за што «Оскара» і атрымаў. (**«Лепей не бывае»**)

1999 – Разгул пэдафіліі і гомасэксуалізму, якія стала занялі сваё пачэснае месца сярод ахвяраў паліткарэктнасьці. (**«Амэрыканская прыгажосьць», «Хлопчыкі ня плачуць»**)

2001 – І завяршае гэты сьпіс любімае дзіця Амэрыканскай кінаакадэміі – шызафрэнія. (**«Гульні розуму»**)

Першым крокам да запаветнай залатой статуэткі зьяўляецца даведка з псыхдыспансэру ці перасадка чорнай скуры.




Неба праясьнілася, сабака сьмярдзець перастаў і ўсё нарэшце стала на свае месцы. Любоў амэрыканскіх крытыкаў відавочная да ўсіх магчымых меншасьцяў, а ў першую чаргу меншасьцяў невылечна хворых на шызафрэнію і іншыя псыхічныя захворваньні. Талкіністам пакуль што такой даведкі не даюць і мясцовы псыха-нэўралягічны дыспансэр прымаць іх ня хоча, а гэта значыць, што «Оскара» за лепшы фільм і галоўныя ролі ім ня бачыць, як Горлуму ягонага любімага пярсьцёнку ●

**Мікіта Міхалкоў**,
кінакрытык

## ДОшка аб Яваў

Набуду танны кампутар і барабаны. Зьвяртацца праз e-mail: nasral@tut.by

Мікітка! Віншую цябе з днём народзінаў. Жадаю табе ўсяго самага найлепшага, здароўя, шчасьця і шмат грошай. Твая Вальжынка.

Набуду старыя часопісы *Лиза* (за 1997–1999 гады) ці памяняю на ўсе нумары *Cool Girl*. П/с 23, 220006 Менск, Ліза.

Прадам па оптавым кошце піўныя бутэлькі ў любой колькасьць і любога колеру, прыхільнікаў «Абалоні» прашу не турбаваць. П/с 34, 220030 Менск.

Маладая сям'я з двух чалавек (супрацоўнікі газэты *Навінкі*) здыме дом у прыватным сэктары на працяглы тэрмін. Тэл. 220-83-77, Насьця.

Набуду канапу і стулы, б/у, у добрым стане. Тэл. 220-83-77 Пятнік.

### Умовы разьмяшчэньня абвесткі ў газэце

Пералічыце 400 рублёў праз пошту пераводам на разьліковы рахунак рэдакцыі: рэдакцыя газэты «Навінкі», р/р 3012201400013, Купалаўскае аддзяленьне ОАО «БелінвестБанк», г.Менск, код 481. На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запішыце дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадайце сказ: «За рэклямныя паслугі».

## Вінтоўка і любоў




Калісьці ўсе былі піянэрамі ды камсамольцамі, таму было б цяжка вылучыць камсамол з мэйнстрыму ў нейкую своеасаблівую субкультурную групу. Сёньняшні БПСМ дужа розьніцца ад колішніх масавых арганізацыяў тым, што паколькі ёсьць рэальная альтэрнатыва афіцыёзу — можна быць зубром, бабром, аматарам экстрэмальнага турызму, сябрам гісторыка-культурнага клюбу ці проста бухаць з пацанамі на люках. Чым жа вылучаюцца бэпээсэмаўцы з усіх астатніх маладзёвых суполак? Адказ можа даць зборнік твораў маладых паэтаў Барысаўшчыны *Ищи всему своё начало*, выдадзены ў 2001 годзе пры ўдзеле Барысаўскай раённай ды Менскай абласной арганізацыяў БПСМ. Паэты-бэпээсэмаўцы любяць хатніх жывёлаў, перадусім, катоў: *Любіць коцік малачко/ Забівае ён ачко/ Мяч ганяе цэлы дзень/ Ты, сыночак, мне павер:/ Дымок — гэта хатні зьвер.* (Шасьцітка Ніна «Дымок»). Часам стомленыя ад цемры нізкіх ісьцін рэчаіснасьці бэпээсэмаўцы ўцякаюць у сьвет прыгожых ілюзіяў і падманаў: *Солги! Клянусь, прошу. Хочу немного лжи/ Хочу за ложь простить — ведь с правдой трудно жить/ Солги! Я сладких слов хочу хоть раз познать/ Потом из тьмы рывком на низ упасть* (Пузанкевіч Натальля «Ложь»). Хацелася б верыць, што гэта не перадвыбарны наказ любімаму кандыдату ў прэзыдэнты. Крышнаіты вераць у рэінкарнацыю, дзекабрысты 1820-х і камсамольцы 1970-х верылі, што ўдзячныя нашчадкі ніколі не забудуць іх жыцьцёвых подзьвігаў. Бэпээсэмаўцы цьвяроза ацэньваюць пэрспэктывы як свайго лёсу, гэтак і лёсу ўсёй арганізацыі: *Жыцьцёвы шлях ня доўгі не кароткі/ Ня змрочны і ня сьветлы - ніякі/ Жыцьцёвы шлях і голас твой дрыготкі/ На могілках успомняць сваякі* (Сьлесаронак Пётар) ●

## Лісты ў рэдакцыю

### Дапушчана вапіюшчая памылка

Паважаная рэдакцыя газэты *Навінкі*!
Не магу ня выказаць абурэньня з нагоды публікацыі ў папярэднім нумары вашага выданьня артыкулу «Прыгажуня й пачвара». Відавочна, што ў адрозьненьне ад мяне, аўтар нататкі не прысутнічаў на прэзэнтацыі альбому рамансаў на вершы Славаміра Адамовіча «Прыгожае» ў выкананьні Вікторыі Ільлінскай. Безадказны аўтар, які хаваецца пад псэўданімам «Санітар», ведаў бы, што «Прыгожае» не «чарговы вычварэнцкі праект» БМАgroup. Адкрыў і вёў імпрэзу журналіст і літаратар Севярын Квяткоўскі, які адразу ж паведаміў, што гэта ён сам займаўся мэнэджмэнтам запісу, выданьня й прэзэнтацыі «Прыгожага». Дык колькі можна спэкуляваць на скандальна вядомай у вельмі вузкіх колах БМА-групы?! Санітар у кожным вершы Славаміра Адамовіча бачыць якое-небудзь вычварэньне: гоп-стоп, пэдафілію і да т.п. Хочацца ўголас заявіць: «Пане Санітару, перш чым выбіраць такі мэдычна-чысьцільскі псэўданім, спачатку дагледзіце ўласную псыхіку, а тады бярыцеся пісаць для паважнага ў краіне выданьня».

**Глеб Рубанаў**

Р Э К Л Я М А






7 красавіка ролевая гульня **«Туманы Айланскага Лесу»** ад майстроў – эльфаў Інэлі і Хальбарада. Палігонка, аднадзёнка. Месца – на 806-м кілямэтры. Правілы складаныя – 7 старонак мануалу.



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Як адцягнуцца...

## Па джазу

**31.03, у клюбе КДБ Казакоў і Бутман граюць джаз**. У 30-я яны б пасьпявалі...

## Па-старыкоўску

**29-30.03 тэатар-студыя кінаактора, культавы спэктакаль «Мы ідзем глядзець Чапаева»**
**4.04, КЗМ**. Алдовая савецкая сьпявачка **Валянціна Талкунова з праграмай «Зэ Бэст»**.
**6.04, тамсама. Чыста вакальная банда «Чысты голас»**.

## Па прыколу

**31.03, Палац Рэспублікі. Сатырык-антыамэрыканіст Міхаіл Задорнаў**.
**4.04, тамсама. Украінская травэсты-сэкс-рэвалюцыянэрка Верка Сярдзючка з выбуховым шоў «Рэвалюцыя працягваецца»**.

## Па-шызоваму

**Да 3.02 у «Палацы Казлоў»** (Палац Мастацтваў, вул Казлова, насупраць «Акіяну») пратрымаецца **выстава «Адраджэньне-2002»**. Закрыцьцё мяркуецца да дня Саюзу Беларусі і Расеі.
**Да 31.03, Музэй сучаснага мастацтва** (пр.Скарыны,47). **Выстава «Зьнікаючая прастора»**. Так заглючыць ня з кожнай маркі...
У **ДК Белсаўпрофу** (Кастрычніцкая) працягваецца брутальна-чарнушная **выстава «Катастрофы чалавечага цела»** (нажаль, толькі воскавыя фігуры...)
**Тамсама** (насупраць рэзыдэнцыі Прэзыдэнта!) **выстава пад красамоўнай назвай «Лукамор'с»**. Арганізатары мяркуюць, што яна пратрымаецца да 12.05. Сумнеўна.

## Па-кіношнаму

**Да 31.03** фанаты трылераў могуць альбо адцягнуцца на **«Мумія вяртаецца»** (**«Бярэсьце»**), альбо заценіць наварочаны францускі закос пад галівуд **«Відок»**(**«Вільнюс»**). А тыя, хто трылеры ненавідзіць, могуць зь іх пасьцябсьціся пад **«Вельмі страшнае кіно»** (**«Камсамолец»**). Хітом кінатыдню адназначна зьяўляецца ранішні сэанс **«Тэрмінатар»** (**«Партызан»**), пазначаны як дзіцячы. Але я абавязкова пайду з пацанамі ў **«Салют»** на падборку **«Ералашу»** Піва возьмем, маладосьць узгадаем...
I галоўная культурная падзея наступнага тыдню – ня ў кінах ды тэатрах. **З 2 па 5 красавіка ўсе на Машэрава 14 - на культавую выставу «Піва, Віны ды Напоі -2002»**. Там сустрэнемся!

**Санітар**,
культурны футуроляг

# Нямецкая балада

## Будні беларускага пісьменьніка на чужыне

Сёньня да мяне прыйшоў мой сябар і калега Гельмут Хоге. «Ты ведаеш, Уладзімір, – сказаў ён, – што ўжо даўно мяне цікавяць партызаны. Сёньня нарэшце ёсьць магчымасьць пазнаёміцца ў Бэрліне з сапраўдным партызанам. Беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў сустракаецца сёньня ўвечары са сваімі чытачамі ў клюбе Trialog. З 60-ых гадоў ён ня піша ні пра што іншае, як пра вайну і партызанаў. Прапаную наведаць ягоную імпрэзу». Мы хутка кульнулі па штофу гарэлкі і выйшлі з дому. У маленькім пакоі клюбу мы знайшлі каля двух тузінаў вэтэранаў – усе эмігранты з Расеі, што чакалі на свайго куміра. Гельмут быў відавочна адзіным немцам на вечарыне. Трохі пазьней зьявіўся й пісьменьнік, якога суправаджаў самы круты перакладчык Бэрліну. У гэты вечар ён быў як звычайна пад мухай. «Добры вечар», – сказаў пісьменьнік публіцы. «Хало», – адразу пераклаў перакладчык. «Я хацеў бы Вам сёньня прачытаць фрагмэнт з майго новага апавяданьня», – працягваў пісьменьнік. Ён пачаў чытаць: «У казарме цяжка сьмярдзела бруднымі парцянкамі. Здалёк чуліся енкі салдатаў і стрэл аўтаматаў...» Прачытаўшы гэты фрагмэт, Быкаў захлопнуў кнігу й адкінуўся ў фатэлі назад. У пакоі ўсталявалася цішыня.



«Гэта ўсё?» – спытаў нехта з публікі. «Не – сказаў перакладчык. – Зараз я вам прачытаю другі тэкст пісьменьніка Быкава па-нямецку. Такім чынам...»
«Але прабачце, – падалі голас на месцах як мінімум трое прысутных, – нашто чытаць тэкст па-нямецку, калі ў залі няма ніводнага немца?»
«Тм ня менш вы не павінны гэтак рабіць», – зароў з свайго куту Гельмут. Ніводны расеец не зразумеў, што ён сказаў. Перакладчык таксама.
«Ага,– узрадаваўся апошні, – бачыце, у залі ўсё ж ёсьць немец, і я павінен зачытаць другі тэкст, паколькі ён не зразумеў, пра што ідзе гаворка ў першым». «Запхні рыла, мы жадаем размаўляць зь пісьменьнікам, ставіць яму пытаньні, а ня слухаць тэксты, перакладзеныя на нямецкую», – запратэставаў нехта ў публіцы. Перакладчык быў няўмольным. «Каму нешта не падабаецца, ён можа трахнуць сябе ў каленку. А я перакладу тэкст на нямецкую».
«Я не магу нічога казаць», – раптам ляпнуў Быкаў. «А хто ў цябе пытае? – працягвала бунтаваць аўдыторыя. – Мы заплацілі 10 марак. Цяпер мусіш ты нам нешта распавесьці». «Такога непаразуменьня я яшчэ ніколі ня бачыла», – сказала фраў з клюбу Trialog. Яна была адказная за правядзеньне імпрэзы. Другая жанчына ўстала і спытала: «Спадар Быкаў, у сваёй кнізе «Адраджэньне» вы апісваеце вечную барацьбу паміж дабром і злом...» «Гэта напісаў ня ён, а іншы пісьменьнік, чыё імя Ананьеў – зашыкала на яе публіка, – сядай, старая вешалка». Двое вэтэранаў пацягнулі жанчыну за спадніцу.
«Не чапайце мяне. Мне ўсяроўна, што ён напісаў. Я хацела спытаць у вас, спадар Быкаў, тым ня менш, што мяне моцна непакоіць. На вашую думку, што першаснае? Дабро або зло?»
«Гер Быкаў, у сваёй кнізе «Адраджэньне», якую вы не напісалі, вы ставіце пытаньне дабра і зла», – пераклаў перакладчык на нямецкую. «Што ты робіш, ты, казёл» – зноў зараўлі расейцы. «Аднак прабачце, я мушу перакласьці фразу».
«Але ў залі няма ніводнага немца!» «Так, – сказаў Быкаў, – вы маеце поўнае права. У маіх кнігах гаворка ідзе пра дабро, а таксама пра зло ідзе гаворка ў маіх кнігах». Пасьля гэтага ён зноў адкінуўся назад у фатэлі. «Але вы не адказалі на маё пытаньне», – запратэставала жанчына. «Аднак, вы не адказалі на маё...» – пачаў пераводзіць перакладчык.
«Не, я адказаў», – адказаў Быкаў. «Ён адказаў», – сказаў перакладчык. «Не адказаў!» – сказала жанчына. «На маю думку я адказаў на пастаўленае пытаньне», – настаяў пісьменьнік. «Пакіньце нас сам-насам з Быкавым», – закрычаў нехта з залі. «Я зараз гэта перакладу», – адказаў перакладчык і адправіўся ў туалет. Ён узяў з сабой мікрафон, каб быць упеўныным, што падчас ягонай адсутнасьці, ніхто ня будзе размаўляць. «Так, – сказаў Быкаў, – ёсьць яшчэ пытаньні?»
«Што вы думаеце пра распад Савецкага Саюзу? Ці лічыце вы, што Саюз паміж Расеяй і Беларусьсю мае пэрспэктыву?» – спытаў нехта ў залі. Пісьменьнік трохі падумаў. «Мяркую, што магчыма ўсё», – сказаў ён. «Гэта жыцьцё», – дадаў ён пасьля невялікай паўзы. «Вы не адказалі на маё пытаньне», – зароў у залі мужчына дзікім голасам. «Не. Я адказаў», – запратэставаў Быкаў.
«Вы сьвіньні, – умяшаўся ў дыялёг перакладчык, які выйшаў з туалету. – Вы ня мелі права размаўляць безь мяне. Як магу я цяпер нешта перакладаць?» «Супакойцеся, – закрычала аргнізатарка сустрэчы, – наш госьць заснуў». Усе позіркі сфакусаваліся на пісьменьніку. Ён сядзеў у фатэлі і па-сяброўску храпеў. Адзін за адным пакідалі людзі залю, каб не разбудзіць тытана пасьляваеннай літаратуры. Магчыма, ён быў некамунікабэльным чалавекам, аднак цудоўным літаратарам.
«Вось яны якія, савецкія партызаны», – сказаў мне Гельмут, калі мы вярталіся. «Так, яны такія» – пацьвердзіў я ●

**Уладзімер Камінэр**
(пераклад зь нямецкай мовы)




**УЛАДЗІМІР КАМІНЭР – адзін з самых культавых маладых пісьменьнікаў сучаснай Нямеччыны, ляўрэат літаратурных прэміяў. Нарадзіўся ў Маскве, з 1990 жыве ў ФРГ. У Бэрліне ён вядомы як арганізатар авангарднай тусоўкі Russendisco, што ў Caffee Burger (Прэнцляўбэрг) і аўтар такіх кніг, як *Russendisco*, *Militarmusik*, *Frische Goldjungs*. Апавяданьне «Нямецкая балада» (у арыгінале «Ein Ausflug von der Schonhauser Allee») уваходзіць у ягоны апошні зборнік *Schonhauser Allee*. У.Камінэр – вялікі прыхільнік газэты *Навінкі* і першым у Бэрліне паказаў фільм «Случай з пацаном».**


ЛЕшшы

## Navinki Home Video прэдстаўляют СЛУЧАЙ З ПАЦАНОМ.

Юра, нармальны пацан з [illegible], [illegible]ыцца са сваёй малой. У поісках [illegible] он рашает устроіцца как у[illegible] работу. Аднака на [illegible] Юры вазьнікает прэкрасная незнак[illegible], акцівістка адной зь дэмакра[illegible] [illegible]анізацый. Юра ўзнает, што ў стр[illegible] [illegible]вует какая-та апазіцыя, каторая борэцца [illegible] какой-та там дзіктатурай. Сам таго ня зная, глаўны герой пападает у самую гушчу паліцічэскіх інтрыг...

Блізка Вялікдзень

**Усім, хто жадае набыць фільм на відэакасэце, просьба зьвяртацца праз нашыя кантакты:**
**Адрас: 220134, Менск, п/с 33**
**E-mail: maryska@tut.by**





# Куток спажыўца

## Ещце беларускае!

***Навінкі*** **прапануюць чытачу компас у моры спажывецкіх тавараў. Нашыя экспэрты дапамогуць вам не заблукаць у багацьці паліцаў беларускіх крамаў. Гэтым разам пра менскі фаст-фуд.**

**«ХУТКАЕ ХАРЧАВАНЬНЕ»** – беларускае бістро на праспэкце Машэрава, каля кінатэатру «Масква». У народзе гэтае месца даўно ўжо атрымала ёмкі назоў «Жуткае харчаваньне». Інтэр'ер па ўтульнасьці нагадвае школьную сталоўку. Сталы й крэслы, што стаяць роўнымі шэрагамі, шурупамі прывінчаныя да падлогі, каб наведнікаў не спакушала нават думка запусьціць імі ў кухароў. А запускаць ёсьць з-за чаго: дранікі, калдуны, рулька, смажаны вугор, журавінавы морс – вось няпоўны сьпіс прычынаў. Адзіны плюс гэтага месца – наяўнасьць бясплатнай прыбіральні.
**«ХУТКА-СМАЧНА»** – сетка закусачных хуткага харчаваньня, што нявечаць выгляд вуліц гораду. Дзякуючы сваёй маркетынгавай палітыцы, накіраванай на асваеньне нетрадыцыйных сэгмэнтаў спажыўцоў, гэта фактычна манапаліст на рынку фаст-фуду. Зараз акрамя старых кліентаў-мясаедаў гэтае месца палюбілася вэгетарыянцам, стрэйт-эйджэрам і вэганам. Апошнім тром групам спажыўцоў можна сьмела раіць паласавацца фірмовым хот-догам, бо нічога, падобнага да мяса, сасіска ў сабе ня ўтрымлівае. Хворым на цынгу варта зьвярнуць увагу на піцу, асноўным кампанэнтам якой зьяўляецца цыбуля. Аматараў традыцыйнай беларускай кухні ў гэтым месцы вабіць магчымасьць набыць пляшку піва фактычна круглясутачна.
**ПЯЛЬМЕННАЯ**, што на перакрыжаваньні вуліц Казлова й Батанічнай зь непрэтэнцыёзнай назвай «Пяльменная». Вельмі дэмакратычная абстаноўка й дэлікатны сэрвіс. Можна дзьве гадзіны правісець над столікам з кубачкам купленай гарбаты (раз-пораз даліваючы туды з-пад полы чарнільца), і ніхто з пэрсаналу не дазволіць сабе абразіць вас пытаньнем: «Што будзеце есьці?». Зручнасьць інфрастуктуры дапаўняе бясплатная паркоўка на лавачцы трамвайнага прыпынку (трмв. № 3, 6, 7) й 24-hours exchange service – пастаянная тусоўка цыганаў з задавальненьнем абмяняе вам на cash залаты пярсьцёнак ці іншыя непатрэбныя вам рэчы ●

**П'ер Сьмірнофф**,
экспэрт




# Прыма Адраджэньня

Здабытак беларускай культуры Бора Маісееў ладзіў 23 сакавіка канцэрт у Палацы спорту. Менск стаўся трэцяй сталіцай, што атрымала гонар пабачыць прэм'еру народнай драмы «Чужы». Уражваў не аншляг у залі, а вялікая колькасьць байцоў АМАПу, што ахоўвалі «подступы» і сцэну. Дарма, што ў квітках гучала пагрозьлівае: «Вашыя рэчы могуць быць дагледжаныя на прадмет выяўленьня алькаголю, наркотыкаў і зброі». Насамрэч, улады баяліся іншых «правакацыяў» – зьяўленьня нацыянальных сьцягоў ды незалежніцкіх улётак – прэм'ера адбывалася напярэдадні Дня Волі.
Цяга публікі да Маісеева – далёка ня прага клубнічкі. Мяркуючы па эмоцыях, мала хто з публікі ўспрымаў шоў як «галубізну». Каб не паганіць сьвяточны настрой, Бора не дэманстраваў сваёй задніцы, як звычайна робіць у Маскве і Піцеры. Непадрыхтаванасьць менчукоў перашкодзіла б паўнавартасна ўспрыняць харэаграфію прымы. Трагедыя духу – вось што аб'ядноўвае практычна ўсе мізансцэны Маісеева, якія можна назваць тэатрам аднаго настрою. Трагедыя раскрываецца праз каханьне, незалежна ад таго, хто каго кахае і як. Галоўнае – асалода болю, перамога над умоўнасьцямі, наканаванасьць, і як рэзюмэ: «Мы пераможам»!
«Які ж я чужы? Я свой. Я звычайны пацан з Магілеву», – паўтарае падчас шоў Бора. Звычайны пацан, які пакарыў не адну сталіцу сьвету. «Шаноўныя сябры і сяброўкі, дарагія браты і сёстры, я люблю сваю спадчыну», – па-беларуску кідае ў залю прыма. Кожнае выступленьне ў Менску для яго сустрэча з Радзімай. I гэты свой канцэрт ён пачаў з таго, што стаў на калені перад Беларусьсю, якая ўвасабляецца для яго ў першым каханьні, ў тварах сяброў, у менскіх краявідах, у начной Сьвіслачы, у зорках, якія, як верыць сьпявак, абавязкова праб'юцца праз апанаваўшыя Беларусь чорныя хмары.
«Жыве Беларусь», – пад гэты Борын кліч я прабіраўся пасьля антракту ў залю. Наступнай раніцай тысячы менчукоў, натхнёныя гэтым клічам выйшлі на вуліцы сьвяткаваць Дзень Волі ●

**Эдзік Севярынцаў**



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018






© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018